


# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

1933

4



Нямеччына (Дрэздэн). Пахаваньне забітых паліцыяй у часе масавай дэманстрацыі рабочых. Камуністы, с-д рабочыя і беспартыйныя тысячамі прайшлі міма трун з целамі забітых




Дэманстрацыя дзяцей беспрацоўных у Філадэльфіі. Дзеці патрабавалі неадкладнай грашовай дапамогі, бясплатнага харчаваньня і бясплатнага забесьпячэньня вопраткай



Швэцыя. Стакгольмскія беспрацоўныя ўзімку, у маразы вымушаны выходзіць на вуліцу, каб ігрой на музычных інструмантах хоць што-небудзь зарабіць на пражыцьцё

Да падзей у правінцыі Жэхэ. На здымку: частка вялікай кітайскай сьцяны, уздоўж якой прасуваюцца японскія войскі



## УРАД АДКРЫТАЙ ФАШЫСТОЎСКАЙ ДЫКТАТУРЫ





У Нямеччыне да ўлады прышоў Гітлер. Роспуск рэйхстага, разгон прускага ландтага, масавая забарона камуністычных газэт, нябачаны тэрор супроць рэвалюцыйных арганізацый.—Вось першыя мерапрыемствы ўраду фашысцкай дыктатуры.

На здымку зьлева направа: ваенны міністр фон-Бломбэрг, міністр унутраных спраў Фрык, віцэ-канцлер і камісар Прусіі фон-Папен, рэйхс-канцлер Гітлер

Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# Чырвоная Беларусь

МАСТАЦКІ ІЛЮСТРАВАНЫ ДВУХТЫДНЁВІК
АДРАС РЭДАКЦЫІ: САВЕЦКАЯ, 59 Тэл. № 17—09
АДКАЗНЫ РЭДАКТАР М. ХВЕДАРОВІЧ
САКРАТАР Я. ШАРАХОЎСКІ
АФАРМЛЕНЬНЕ НУМАРУ А. ТЫЧЫНЫ

ЛЮТЫ № 4 (76) 1933
ГОД ВЫДАНЬНЯ IV






НАРОДНЫ КАМІСАР
ПА ВАЕННЫХ І МАРСКІХ СПРАВАХ І СТАРШЫНЯ
РЕВВАЕНСАВЕТУ СССР
тав. К. ВАРАШЫЛАЎ

## ПЯТНАЦЦАЦЬ ГОД ЧЫРВОНАЙ НЕПЕРАМОЖНАЙ

23-та лютага Чырвоная армія разам з партыяй, усёй краінай, працоўнымі сьвету сьвяткуе свой пятнаццацігадовы юбілей.

Наша армія, што нарадзілася з чырвонагвардзейскіх пралетарскіх атралаў, з атрадаў дрэнна ўзброеных, слаба падрыхтаваных і невялікіх паводле свайго складу, з заслужаным гонарам азіраецца на пераможны шлях, пройдзены ёю.

Пятнаццацігадовы шлях Чырвонае арміі ёсьць сапраўды гераічны шлях перамог і дасягненьняў. У гады грамадзянскае вайны пераможны разгром белагвардзейшчыны ўсіх колераў і адценьняў супольна з інтэрвэнтамі, якіх Антанта не шкадуючы ніякіх сродкаў насылала на нас. У гады мірнае перадышкі Чырвоная армія ўзьняла сваю баявую магутнасьць на вялізарную вышыню і ператварылася ў армію грозную і моцную з высокай ваеннай тэхнікай, каб адстаяць незалежнасьць і мірную працу краіны, будуючай сацыялізм, супроць усякага ворага, які асьмеліцца зрабіць на нас напад.

Яшчэ на XVI партзьезьдзе тав. Варашылаў у рапарце зьезду казаў: „Узброеныя сілы нашага Саюзу зьяўляюцца ў арганізацыйных, баявых і палітычных адносінах упаўне надзейнай узброенай апорай дыктатуры пралетарыяту“.

Першая пяцігодка пад кіраўніцтвам нашае партыі, яе ленінскага ЦК на чале з тав. Сталіным пасьпяхова выканана за 4 гады, тэхніка - эканамічная адсталасьць краіны—адна з слабых мясьцін нашае абароны адыйшла ў мінулае. У СССР створана ўласная індустрыяльная база тэхнічнае рэканструкцыі краіны. Чырвоная армія на аснове сацыялістычнае індустрыялізацыі атрымала новую баявую тэхніку.

Па ўсіх відах баявой тэхнікі Чырвоная армія на базе новага ўзбраеньня, якое паступае з нашых заводаў, зусім не падобна на армію 1927 г. (Варашылаў. Даклад на сходзе Маскоўскага актыву 20 студзеня 1933 г.).

Кажучы пра юбілей Чырвонае арміі, перш за ўсё неабходна сказаць аб найвялікшых будаўніках абароны, лепшых і геніяльнейшых стратэгах пралетарскае рэвалюцыі—правадырох нашае бальшавіцкае партыі Леніне, Сталіне. З іх імёнамі непарыўна зьвязана ўся гісторыя пралетарскае абароны і кожны баец Чырвонае арміі, кожны працоўны Савецкага Саюзу павінен асабліва глыбока і выразна зразумець усю іх найвялікшую ролю ў справе будаўніцтва пралетарскае дзяржавы.

Умацаваньне Чырвонае арміі непарыўна зьвязана з імем выдатнага правадыра Наркамваенмора Кліма Варашылава.

Варашылаў прайшоў з Чырвонай арміяй увесь яе баявы шлях, пачынаючы ад Чырвонагвардзейскіх атрадаў. Ён будаваў армію, ён ствараў яе на палёх грамадзянскае вайны, змагаючыся са зброяй у руках супроць белагвардзейшчыны. Данбас і іншыя раёны Украіны, Царыцын, Варонеж, Новарасійск, пераможны шлях ад Умані да Львову, барацьба з Врангелем—вось шлях Варашылава супольна з Чырвонай арміяй у час грамадзянскае вайны. У час мірнага будаўніцтва арміі яго імя вылучаецца як імя лепшага арганізатара ўзброеных сіл.

Пад якімі лёзунгамі, пад знакам якіх задач праводзіць Чырвоная армія свой пятнаццацігадовы юбілей.

Першая пяцігодка дала нам магутную баявую тэхніку, гэта тэхніка зьвўляецца моцнай зброяй у руках тых, хто ўмее ёю валодаць. Адсюль першая задача—авалодаць баявой тэхнікай. Яшчэ вышэй узьняць клясавую рэвалюцыйную пільнасьць, яшчэ мацней разгарнуць барацьбу за генэральную лінію партыі супроць апартунізму на аснове гістарычных рашэньняў студзеньскага пленуму ЦК і ЦКК УсеКП(б)—вось баявы лёзунг падрыхтоўкі бальшавіцкай арміі да сваёй гадавіны.

Чырвоная армія была і ёсьць першаклясная палітычная школа. Яна выхавала жалезных байцоў, што змагаліся са зброяў у руках на франтох грамадзянскае вайны ў мірны час, яна дала дзесяткі тысяч работнікаў, што праводзяць бальшавіцкую лінію ў горадзе і вёсцы.

Рабочая кляса нашае краіны зьвўляецца будаўніком Чырвонае арміі. Першыя чырвонагвардзейскія атрады, што паклалі пачатак Чырвонай арміі, складаліся з лепшых пралетарыяў нашае краіны. І ў далейшым імепна цесная сувязь з рабочай клясай акрэсьліла ўсе перамогі Чырвонае арміі. Адзін з баявых лёзунгаў падрыхтоўкі да 15-е гадавіны—яшчэ шчыльней сувязь Чырвонае арміі з рабочай клясай, яшчэ вышэй якасьць пралетарскага шэфства над РСЧА.

У пралетарскім шэфстве над Чырвонай арміяй выяўляецца непарыўная ўзаемасувязь сацыялістычнага будаўніцтва. Яно павінна быць падпарадкавана задачам умацаваньня баявой тэхнічнай магутнасьці Чырвонае арміі.

Ваенна-шэфская работа, побач з добрымі ўзорамі, да гэтага часу мае яшчэ і буйныя недахопы. Увага шэфаў павінна быць зьвернута не на парадныя ўрачыстыя вечары, а на ўмацаваньне пастаяннай цеснай сувязі рабочых з чырвонаармейцамі шляхам узаемных наведваньняў і азнаямленьня з ходам работы і выкананьня плянаў. Павінна быць зьвернута на ўдзел рабочых у правядзеньні падшэфнымі часьцямі атрадных вучэньняў, манэўраў, наведваньне лягераў і казарм і г. д. і ў сваю чаргу на азнаямленьне падшэфнае часьці з працэсамі вытворчасьці на шэфскім прадпрыемстве. Такая сыстэматычная сувязь і кіраўніцтва шэфскай работай партыйных і прафсаюзных арганізацый вядзе да яшчэ большага ўмацаваньня ў Чырвонай арміі пралетарскага ўплыву, да далейшага павышэньня абароназдольнасьці Савецкага Саюзу.

Неабходна, каб шэфства ўсюды грунтавалася на сацыялістычным спаборніцтве, на выкананьні і перавыкананьні вытворчых плянаў і баявой падрыхтоўкі, каб выкананьне дагавароў знаходзілася пад грамадзкім кантролем саміх чырвонаармейцаў і рабочых.

Наша армія—самая малая паводле колькасьці з усіх армій буйных дзяржаў. Яна налічвае ўсяго 562 тыс. усіх падзелаў войска. На тысячу чалавек насельніцтва ў нас выходзіць 3,7 ваеннаслужачых, у той час як у Францыі—17, у Польшчы—19,9, у Румыніі—9,6. Між тым будучая вайна патрабуе ўдзелу ў вайне мільённых мас. Гэта задача можа быць вырашана толькі па пачатках ініцыятывы і самадзейнасьці саміх шырокіх мас працоўных нашае краіны па лініі Асоавіяхіму.

Асоавіяхімам ужо зараз праробдена вялікая праца па ваенізацыі працоўных мас, па прапагандзе ваенных ведаў, перападрыхтоўцы начскладу запасу, па ўнеавайсковаму навучаньню працоўных. На фабрыках і заводах, у сёлах і калгасах ёсьць ваенныя куткі, куткі ваенных ведаў, розныя каманды, дамы абароны, ціры і інш.

Але разам з дасягненьнямі па лініі Асоавіяхіму ў галіне масавай ваеннай работы, прапаганды ваенных ведаў ёсьць яшчэ многа недахопаў. Ваенныя куткі на заводах і фабрыках, у калгасах і саўгасах часам бязьдзейнічаюць, ня маюць адзіных плянаў ваеннай работы. У некаторых выпадках мясцовыя арганізацыі Асоавіяхіму абмяжоўваюцца зборам членскіх узносаў, стаяць у баку ад узрослай актыўнасьці працоўных мас, не скарыстоўваюць іх цікавасьці да пытаньняў абароны. Мала аддаецца ўвагі справе ўцягненьня работніц і сялянак у работу па ўмацаваньні абароны краіны.

Да 15 гадавіны Чырвонае арміі мы па лініі Асоавіяхіму павінны паставіць работу так, каб разам з Чырвонай арміяй мы маглі сказаць, што кожная фабрыка, завод, саўгас і калгас ёсьць цытадэль абароны краіны. Не павінна быць ніводнага рабочага і калгасьніка, які ня ўмеў-бы трапна страляць, ня ведаў-бы сучасныя сродкі ваеннай тэхнікі, ня ведаў бы значэньня супроць паветранай абароны і ня ўмеў-бы абараніцца ад атрутных матэрый.

Яшчэ некалькі слоў трэба сказаць пра ролю камсамолу у справе абароны краіны. У сёньняшні дзень камсамол з гонарам нясе годнасьць шэфа паветранага і марскога флёту. Ім многа зроблена для падрыхтоўкі новых кадраў начскладу арміі (вярбоўка у вайсковыя школы). Да пятнаццатай гадавіны перад камсамолам стаяць вялізарныя задачы па далейшай масавай ваеннай рабоце, асабліва на вёсцы, у калгасах і саўгасах камсамол павінен быць ініцыятарам усіх пачынаньняў па абароннай рабоце Асоавіяхіму.

Слаўную гістарычную гадавіну правядзем пад знакам рэалізацыі рашэньняў студзеньскага пленуму, пад знакам асваеньня тэхнікі наогул і ваеннай у прыватнасьці, умацаваньня дысцыпліны, палепшаньня ўнутрыпартыйнай работы, узмацненьня рэвалюцыйнай пільнасьці, яшчэ большага ўмацаваньня сувязі Чырвонае арміі з рабочай клясаю і працоўным сялянствам.

Партыя вяла Чырвоную армію на працягу 15 год яе існаваньня. Вялікая ленінская партыя, што стаіць на чале пралетарскае дыктатуры, павядзе нашу Чырвоную армію да новых перамог.



Сьцяпан Ліхадзіеўскі

## ПЕСЬНЯ ЕДНАСЬЦІ

*Маракам Захаду*

Тое-ж мора і тыя прыбоі,
тыя-ж ветры і той-жа шторм...
Вы ішлі заплаціць сабою,
не даведаўшыся —
за што?
Караля вам, айчыну ўсхвалялі,
камуфляжам прыкрыўшы ману,
каб за сытае існаваньне
вашу моладасьць шыбануць!
Углядаліся на айчыну
вы з трывогаю на вачах:
права правяць
і зьдзекі чыняць
рукі чорнага палача.
На ўспамінак прыходзілі прызвы:
роспач ціхая ладзіць баль...
Шлях нязьведаны,
шлях вялізны...
Сыпле воплескі галацьба...
Цяжар дум і сумненьняў вас мучыў
і далёкае блізкім было.
І вы штрайку работнікаў—грузчыкаў
спачувалі з сваіх караблёў.
Сны пакінулі вабіць розум—
І ня варт на сябе наракаць.
Так, як выбух,
і як пагроза,
узьнялася рука марака!
Бо ў партох,
міністэрствах ваенных
зноў рыхтуюць сусьветны разбой,
усхваляючы разбраеньне,
сябе ўзбройваючы да зубоў.
Усё гэта ня пройдзе марна—
іхні крок ваш пратэст нарадзіў.
Маракі —
і з Канстанцы і з Варны *)
стануць з намі ў фронт адзін!
Гэтай еднасьці не асіліць,—
ёй і песьня вось гэта мая!
Мы спаткаемся ў моры сінім,
на адзін ідучы маяк!

*) Канстанца—румынскі ваенны порт, Варна—баўгарскі.

Малюнак
М. Жытніцкага



Сібірскія партызаны

## САЛДАТЫ

Гэта ўсё добра—парад і маршы,
Паходнае зарыва медных труб,
Ля ног вашых — ружы і астры ляжуць,
Што мужныя дамы вам кінуць на брук.
Вы горда пяройдзеце пляц,
Кветкі рассыпаюцца пудрай.
І будзе з вас кожны гэроем для
мэдалі і шляху да унтэра...
Закончыцца ваш парад
Калі адпяе запаветы ксёндз,
Пра ваш лепшы на сьвеце край
і салдата—геройскі лёс.
Гэта ўсё добра—парад і маршы,
Багатая слава... і новенькі крыж
Пладамі нальлецца на трупах вашых
Дзесьці ў фэрмера рыс.
Ён вам не пашле падзякі,
Рысу ня вынесе вашым сынам,
Што з шанькамі будуць стаяць на тракце
і плакаць—
... хлеба ці згубы нам...
(Ён ня ўлічыць гэта,
што рысавай кашы ком
мае 3/4 шкілетаў,
частку вады і бялкоў...)
... А пакуль ты ціха пяеш, салдат,
Пра дзяўчыну з косамі чорнымі,
Ты пакінуў яе... і вачэй вада
Табе сьніцца сіней за вазёрную...
А ёй не расчосваць косы,
Не да кранацца рукой грабель,—
Ты ня ўбачыш у даўняй позе
Ніколі, ніколі яе...
Яе фэрмер даўно прагнаў—
Крызіс мае свае законы.
І асыгноўку ёй выдалі на тры мэтры зямлі з труною
А ты, малады салдат,
што пабіў па стральбе рэкорд,
Табе бацькава барада
Прысьнілася з нізкіх вакон,
І садзік вішнёвы, бяроз палісад
і косы тваіх сясьцёр...
Ты сьмела пойдзеш на фронт
За іхны спакой і жыцьцё.
Ды толькі дарэмна ты
Марыш, што гэта так...
Твой бацька—нясе хатыль
і добры ён стаў жабрак.
І можа, калі з вайны
Ты выйдзеш бязрукі на тракт,
Хлеба працягне і скажа: — вазьмі...
Твой бацька сухі жабрак.
Ён скажа табе: — ... даўгі
Даелі наш дом і сад
. . . . . . . . . .
Каму-ж ты сьпяваеш гімн,
Высокі і дужы салдат?..

Клім Грыневіч

**Юрка Рудзько**

# ФРОНТ

*(АПАВЯДАНЬНЕ)*

Малюнкі Г. Ізмайлава

Надвячоркам быў вольны час і тут займаўся кожны на свой лад. Васяткін каторы раз перачытваў зашмальцованую кніжку гэамэтрыі, разблытваў закручкастыя тэарэмы—ён рыхтаваўся ехаць на рабфак. Кульбіч штудзіраваў устаў службы ў РСЧА, бо заставаўся звыш тэрміну ў арміі. Касуля з Жыгачом наведвалі курсы трактарыстых. Прыходзілі не раней як а дзесятай, шумна цягнучы спрэчкі пра тры́валасьць бабін у „Фардзоне“, годнасьць матору ў „Інтэры“, ці так пра што.

А дзесятай зьбіраліся ўсе. Ускіпала ў палатцы гамонка. Разважалі пра вучобу, службу, а больш успаміналі. Васяткін апавядаў пра чорныя гарады Данбасу, дзе працаваў забойшчыкам ён, Касуля пра „Шлях Ільліча“ — калгас свой — як ваявалі з кулаччом, колькі турбот-клапот было.

Жыгач казаў толькі:

— Шкода, позна на сьвет нарадзіліся. Ня цікава жыць.— Барацьбы гэткай, фронту няма... Ведаем толькі службу, вучобу, працу... Ну, добра згодзен — шмат сілы патрэбна і на заводзе працуючы, ці ў калгасе, але-ж — гэта будзенна ўсё... Няма агню таго...

Яму даводзілі, што і будаўніцтва — фронт. Барацьба-ж на кожным кроку віхурыць.

— Думаеш кулаччо лёгка разьбіць? Не, братухна, тут ого як трэба змагацца, у бойку рашучую ісьці,—супярэчыў горача Касуля. Апавядаў.

— Вось у нашым калгасе было пазалетась. — Надыйшло жніво. Жыта ўрадзіла—лесам, рослае. У калгасе сілы няхватка, каб у час убраць, а ня ўбярэш за тыдзень — выцячэ, вывее вецер зерне. Нэрваваліся як — страх! Ног, рук ня чулі, што ёсьць. На адпачынак не зважалі... А тут жняярку на падмогу саўгас пазычыў — узрадваліся... Спраўна рабіла жняярка. За дзень, што за тыдзень коп расло. Два дні ваявалі гэтак з каласістай паводкай, але—на трэці—выехалі, як заўсёды, ледзь сонца пырсьне. Застракатала жняярка і раптам—здрыганулася, застылі крылы, хропнулі нажы, на кавалкі разьляцеліся. Жалезныя прэнты ў жыта ўтыркнула рука ворага. Напрыканцы жніва—зноў. Жыта ў копах стаяла ўжо. Ноччу прыбег хлапчук, што ў начлезе быў. Кажа: жыта крадзе нехта. Мы—туды... Ня краў, а копы раскідваў, перавяслы перарэзваў, крэмсаў снапы кулак тутэйшы — Архіп. Выкрылі ворага... Колькі-ж яшчэ ваяваць давялося... А ты кажаш...

— Усё-ж ня тое, што сапраўдным фронце. Не кажы, куды там...

Ноч ужо даўно трапыхала чорнымі крыламі. Адбою не заўважылі хлопцы—забавіліся размовай. Толькі калі дзяжурны прышоў з-пад „грыбу“, пачуўшы шэлест гаворкі, накінулі коўдры—нібы сьпяць. Той толькі галавой крутнуў.

— Сталіся... О, хлопцы, заробіць каторы з вас „губу“...

---

Паехаў сымон Жыгач з арміі ў вёску сваю трактарыстам. Пісаў брат, што і ў іхнай вёсцы жыцьцё новае ладзяць—калгас арганізавалі.

„Паваюем, — думаў Жыгач з задорам, —непарадкі — піша Піліп—ёсьць у калгасе—хопіць працы, калі гэтак...“

Вёска ўсё так, як і раней, хуталася садамі і мохам. Прышчураныя вочы вокнаў хаваліся пад брывямі саламяных стрэхаў. Вуліца бяззуба чаўкала пад нагамі.

Ты як — на гаспадарцы застанешся, ці ўпішашся ў калгас?— запытаўся брат, калі прыехаў Жыгач. Чаму я выпісаўся?.. Бо жыцьця нашаму брату тамака няма. Ад пачатку — тым летам — добра ішло ўсё. Рабілі суладна. Гаспадарку ладную набылі, адных кароў ля дзьвёхсот было... А далей сплыло ўсё, як з дымам, пажарам тым... Адны рэбры засталіся ў аборах. Вышла з калгасу нас гаспадароў дваццаць... Тут і дзівіцца няма чаго. Мікола—старшыня наш першы — у армію пайшоў, год ягоны падскочыў. Пралез неяк за старшыню Максім, швагер Ражанца Васіля — раскулачанага, што млын меў. Тут і пайшло кругаверцьцю ўсё... У калгас прынялі самога Васіля—Максім, ведама, настоіў. Няма чаго,—кажа,—чалавека ў гразь кідаць. Ня горшы—кажа—за іншага, а што раскулачылі, дык гэта ня фальш чалавеку... Потым шчэ Забудзянскі цішком прысмактаўся ды Патунчык — уся зграя кулацкая. Робім мы дзень у дзень з раньня да зайсьця, а яны валэндаюцца, абібочаць. Ражанец намесьнікам старшыні зрабіўся, што эканом панскі над каркам стаў. Патунчык за рахункавода, пісаў, рахаваў ліха ведае як. Пры размеркаваньні прыпала нам за працу дзень-ночную пудоў па дваццаць збажыны ўсяго, а ў Максіма—старшыні, Ражанца ды Патунчыка—засекі паўнюткія аж за край зерне цячэ... Што было рабіць?

— Ці заявілі куды—у ячэйку, або ў раён? — перасек запытаньнем Сымон.—Змоўчылі кулаччу?

— Казалі. Прыехаў з сельсавету Пракоп — старшыня — высьвятляць. Яму тлумачыць Максім — па закону дзялілі, хто колькі рабіў улічвалі. Хто робіць той і есьць.

Я тады не сьцярпеў.

— Сабе засекі поўныя збожжа калгаскага насыпаў па якому закону?—кажу.

А Максім—Пракопу:

— Ён са злосьці гэта. Самы лайдак у нас у калгасе,— ківае на мяне. Касавіцу ўсю атрушваў. — Паперкі дае. — Запісана—ось.



Разважалі пра вучобу, службу, а больш успаміналі.

А ў мяне па-праўдзе толькі і было, што два дні не нашоў на працу—жонку ў больніцу вазіў.

Тады Пракоп кажа нам:

— Няма чаго паклёп узводзіць на людзей, каб рабілі, дык і мелі-б.

— Ускіпеў я. У стайню пабег, гнядога ў аброць ды дадому. За мной шчэ людзі, гэтак і разышліся... У раён думаў ехаць, а баба галосіць. Табе—кажа—ці болей за ўсіх трэба. Грозіць Ражанец. Заявіш—ня мінеш ліха. Яно і засталося,— скончыў, матнуўшы рукой безнадзейна, Піліп і самасей вынуў.

У Сымона падскочылі прадкі валасоў, што выбіліся з-пад шапкі на лоб, як ускочыў ён, грымнуў:

— Выкрыем свалату... Паваюем...

Выбег з хаты.

Надвячорак кіпеў пахам пажоўклага лісьця і сьвежа-ўзаранай зямлі, зьвінеў песьняй.

„Моладзь ля школы“—падумаў Сымон.

Пярэсып гаворкі пачуў—то мужчыны на кладцы сышліся ў гурт, каб жыцьця тээрэмы складаныя разьвязаць у суседзкай гаворцы. Пашоў да іх.

— Што, Сымонка, у вёсцы застанешся, ці мо ў горад куды на працу пойдзеш?—запытаўся Карней, мнучы кужаль сівой барады.

Доўга ня мог заснуць спакойна Сымон, шўргэлэла сёна пад бокам тэй ноччу.

„Як разблытаць, парваць павуцінь кулацкую“... Карціла ў думках.—„Раскідалі калгас гады“...

Хрумснулі пальцы рукі сьцятай у кулак. Кінуў у чорную бездань:

— Ня ўседзіце ў гнездах, ня доўга ўладараваць вам...

Раніцой стрэў Сымона Максім лагоднай усьмешкай. Здалёк шчэ гукнуў:

— Прывітаньне ваяку чырвонаму... Адслужыўся? — запытаўся вітаючыся.—Ну і добра... Дачуўся, што прыехаў ты—аж узрадаваўся. У нашых радох болей будзе — думаю сабе.— Вяртлява мітусіўся Максім, хлопаў па плячы панібрацкі.

— Кажуць трактарыстым выўчыўся? Яно добра. Нам зараз трэба каго, каб машыны дагледзеў. Малатарню-ж набылі, арху. На весну і трактар будзе. Ха-хэ... Прапрацуем... Дык пойдзеш да нас?

— Запішуся, пэўна-ж,—адказаў Сымон.

— Прыходзь малатарню глядзець, сёньня спрабуем, як пойдзе яна ў нас.

Ля калгаснай аборы стрэў Зыгмуся, сябра калішняга, Сымон.

— Хіба жыць няма з чаго, што ў гэтакі калгас пойдзеш?— Зьдзівіўся пры размове Зыгмусь. — Гэта мне завязана, што ў



— На суд падаў?

— Я за трактарыстага навучыўся ў арміі, працавацьму ў алгасе,—адказаў ён, частуючы цыгаркамі аднавяскоўцаў.

— Бач ты, — задумёна працягваў Карней. — Навучыўся за рактарыстага—кажаш. У арміі дык — гэта, што ў школе пабыў... За царом бывала год дваццаць елі кашу дубовую, ды...

— Канешне. Армія наша і ёсьць школа, — падхапіў Сымон. І грамаце навучуць і спэцыяльнасьці нават.

— А толькі з калгасам нашым справа кепская зазначыў хмура Нічыпар.

— Чаму?

— Ды от пажывеш—убачыш...

Змоўклі... Думка пра калгас тушыла ўсьмешкі і скоўвала сур'ёзнай удумнасьцю людзей.

— Ат, што таіцца,—рашуча дадаў Нічыпар.—Новы чалавек рады мо' дась... Слухай-жа...

торбе, жыцьцё. Без гаспадаркі куды паткнешся? Як батраком быў Ражанцу, гэтак і зараз выходзіць...

Усьміхнуўся Сымон.

— Нічога, браце, ня век гэтак будзе. Абы ўзяцца як сьлед, іхнага і духу не застанецца тут...

У праўленьні — Ражанцавай хаце, пасьля раскулачваньня выселілі таго ў меншую, што на загуменьні — Сымона стрэў глянцовым праборам намасьленых валасоў, калючым пазіркам з-за акуляраў узьдзетых на нос і віхлястай ухмылкай, штучна прышытай да твару, Патунчык.

— Прыемна, вельмі прыемна, што ца нас прыехалі... Расьцем... Хэ-хэ...—цягнуў жуючы словы ён.

Сымон перасек запытаньнем:

— Як працадні ўлічваюцца калгасьнікам—і прыбытак разьмяркоўвалі?



**На крык беглі людзі.**

Па твары Патунчыка прабегла ценьню нездавальненьне: чаго лезе не ў сваю справу, прыехаў нахабай на галаву. Адказаў каўтаючы словы:

— Згодна струкцыі... Як працуюць, гэтак і пішам... Толькі адно—ляноуцца рабіць, от абы дзень да вечару таўкціся...

— Чаму гэта,—зноў запытаў Сымон, разглядаючы паперы на стале, — выдадзена авансам Забудзянскаму ды Ражанцу па 20 рублёў, а Лукічу Зыгмусю ўсяго 5?

— Па-першае, у гэтых сям'я большая, і яны сумленна працуюць, а па-другое,—злосна кінуў, — ня ваша справа рэвізію рабіць тут, не перашкаджайце...

Патунчык з рук Сымона выхапіў паперы і кінуў жмутам у шафу. Шчокнуў ключам, выбег з хаты, забыўшыся шапку захапіць на'т.

— Дацяло...—ня стрымаўся, зарагатаў усьлед Сымон.

---

Прыехаў Сымон з раёну на зьмяркань і. Насьпех у хату заскочыў, кінуў брату: распражы каня сам, — і пабег з чалавекам, што разам прыехаў, да чарговых, каб на сход загадвалі.

Праз гадзіну ў каморцы праўленьня хоць расьпіражы— людзей было. Газоўка тужліва хлыпала ад духаты. Хто не прабіўся ў хату—стаялі налажыўшы лакоткі на падваконьне з двара.

Ражанец, як заўсёды, сеў ля самага стала, паважна пыхкаючы „сабачай ножкай" цыгаркі. Але, як пачаў даклад той, што з раёну прыехаў—аказаўся прадстаўнікам ад райкому— твар зьмізарнеў адразу і Ражанец глуха мармычучы сабе нешта прабіўся да дзьвярэй, у цямнейшы кут.

Вылузаўся голас з купы жанок, перасек дакладчыка:

— Дзе кулакі тыя? Людзі, як усе... Што казаць...

— Ага, навошта людзей чарніць залішне, — падхапіла другая.

Сымон зьмяў галасы выгукам:

— Застракаталі што?... Сход сарваць...

І гэтае—„сарваць" — гамонку, як рукой зьняло. Змоўклі на паўслове жанкі.

Толькі дакладчык зьбіраў думкі, каб зноў працягваць, не дачакаўся канцу Зыгмусь, да стала прабіўся і цьвёрда пачаў:

— Я скажу... Добра кажа таварыш гэты, што на шкоду кулачо робіць, каб калгас раскідаць... Як пралезьлі кулакі ды заможнікі—Ражанец, Патунчык...

— Які я заможнік? Меў зямлі тэй — добрай бабе сесьці няма...—ускіпеў давячыся словамі Патунчык.

Зыгмусь не зважаючы працягваў:

—...ды яшчэ крывасос з хутару — Забудзянскі — жыцьця няма ў калгасе... У іх поўныя засекі, а ў нас вецер шалдыбае ў клеці. Што парабкі робім ім...

Валасы праселцамі зьвісьлі на лоб, узмакрэлі і казыталі назойліва. Зыгмусь рукавом з твару пот сьцёр і скончыў рашуча матнуўшы рукой:

— Выгнаць гадаўё трэба.

Галасы напярэбай сыпанулі:

— Добра ка — выкінуць, пэўне... Жыцьцё разьвязаць калгаскае...

— Развалілі-ж наўмысьле калгас яны...

Ражанец намагаўся перакрыць галасы:

— Грамадзяне, нельга мяне... Завошта?.. Рабіў сумленна-ж... Перабілі:

— Засекі сабе таксама „сумленна" поўніў?..

— „Сумленна" калгас развальваў... Дабро заграбастаў сабе... Шротам сьмех пракаціўся.

Напрыканцы сходу зморaны, але радасны гукнуў Сымон:

— Пішымося ў калгас, дзядзькі, зараз... Будаваць гаспадарку, жыцьцё нанова...

Падышоў Карней і сур'ёзна, крыху ўрачыста на'т, сказаў:

— Запішы, Сымон, мяне... У гэтакі калгас іськці згодзен.

Падхапіў Пiлiп—брат Сымонаў:

— І мяне... Я заўжды—за калектыў, толькі, каб без кулачча...

... Золак чырвоньню ўскіпеў, вітаў усьмешкай першых промняў людзей, што заклалі прадмурак новай эпохі, новых байцоў за сацыялістычную грамаду...

— Зараз паваюем,—задорна кінуў Сымон улюбёнае слова сваё, згортваючы аркуш з слупікамі прозьвішчаў.—Трымайся... Мы—сіла зараз...

---

Напорна ішла вясна. На дзявочых шчоках вясьнянкі сьпелі на дрэвах почкі. Сонца купалася ў раўчуках гарэзьлівых. Зямля ўздыхала пахкім парам.

Выехалі араць, як толькі ўгрэла зямлю сонца, выпілі промні з разораў ваду талую.

Працы завал Сымону—за старшыню ён. Трэба прыглядзецца ва ўсім, працу брыгад наладзіць. Але ня змог усё-ж спакусу стрымаць Сымон, перадаў работу гэтую Карнею — намесьніку свайму—і ў поле паехаў. — Працаваць на трактары, узадраць пульхныя грудзі зямлі самому.

Араў на ўскраі поля—ля самага лесу — Сымон, пасьвістваў заліхвацкі будзёнаўскую...

Лемяхі рэзалі роўныя скібы, складкай цяглі баразну.

Бегла роўнядзь поля ў бяскрай. Уздыхала на поўныя грудзі зямля, скінуўшы тугія перавяслы меж...

Дааравў клін Сымон завідна 'шчэ. Спыніўся перачысьціць трактар, каб на другі вучастак ехаць.

Дарогай, што вілася цераз поля, хмура каня панукаючы, Ражанец з Патунчыкам везьлі гной на свае акрайцы, што далі ім за глінішчам, дзе бядняцкія кліны калісь былі.

Спыніў каня Ражанец, утаропіў позірк у роўнядзь пахаці.

Сымон падняў галаву.

— Не пазнаеш палосак? Ня знойдзеш меж, ня шукай... Наша поля—бяскрайнае...

Той выціснуў хрыпата,—як не сваім галасам:

— Усё, усё зруйнавалі... — І дробныя дрыжыкі шалёнай злосьці скаланулі яго.

— Ліквідавалі межы, як клясу,—жартам зазначыў Сымон.

Ражанец падбег шырокімі крокамі да Сымона, укалоў вачыма налітымі крывёй, запытаў з трывогай:

— На суд падаў?

Сымон адказаў спакойна:

— Канешне, гэта-ж шкодніцтва... Страты калгасу колькі...

Выцадзіў скрозь зубы Ражанец:

— За маё дабро і ў суд?.. Падавіцеся...

Раптам схапіў загрудкі Сымона, сіпеў:

— Будзеш душыць і далей? Будзеш?

Сымон адкінуў яго, як калючку прыдарожнага рыпейніку.

— Адыйдзі... Прэч!.. Не запужаеш... Калі шкодзіў—адкажаш, ведай гэта.

Ражанец з маху ўдарыў па твары Сымона і яны ў абдымках нянавісьці пакаціліся па зямлі.

Сымон вылузваўся, рваўся, але Ражанец зьвярынай хваткай, рукамі з успухлымі рубцамі жылаў, расьпінаў яго на пахкай ральлі.

Бег з віламі на памогу Патунчык. Здавіўшы Сымона хрыпеў Ражанец:

— Пад сэрца... Бі...

З бярэзьніку падбежкам сьпяшаўся Архіп, што пасьвіў стада калгаснае, пачуў гаману і ўбачыў...

Бег з крыкам Архіп:

— А-а... Надумалі што, гадаўё-о... Стой!.. Зубы вілаў п'яўкамі ўпіліся ў грудзі наўскос. Рвануўся, вылузаўся Сымон. А на крык беглі людзі...

... І калі хто з моладзі кідае лёгкадумна:

— Эх, спазьніліся нарадзіцца мы, няма зараз агню таго ў жыцьці, франтоў...—Сымон з усьмешкай расхрыстае грудзі, дзе рубцы ад кулацкіх вілаў.

Кажа ён:

— Ваяваў на калгасным фронце...

В. ВЕРЫЧАЎ

# ВАЙСКОВАЯ ПАДРЫХТОЎКА ПРАЦОЎНЫХ— ПАРУКА АБАРОНЫ КРАІНЫ



Баявая вучоба ў Чырвонай арміі. Заняткі з буссольлю.



Чырвоная армія—школа працоўных. Чырвонаармейцы ў лягерах на занятках па матэматыцы.



Нацыянальная кіргізская кавалерыйская школа на тэарытычных занятках (г. Фрунзэ, Кіргізія).

Савецкі ўрад вёў, вядзе і будзе весьці цьвёрдую палітыку міра. Савецкі саюз—адзіная краіна, што прапанавала капіталістычным краінам зьдзейсьніць частковае або поўнае разбраеньне (на Генуэскай канфэрэнцыі і на спэцыяльнай канфэрэнцыі па разбраеньні суседніх з намі дзяржаў у Маскве ў 1923 г., на падрыхтоўчай сэсіі канфэрэнцыі па разбраеньні ў 1927-29 г.г. і нарэшце на самай сусьветнай канфэрэнцыі па „разбраеньні" (у 1932 г.). Аднак, усе нашы прапановы капіталістычныя краіны адхілілі і адхіляюць.

У апошнія гады Савецкі Саюз выставіў новую форму ўмацаваньня міру—складаньне дагавораў пра ўзаемны ненапад. Такія дагаворы ўжо зроблены з радам дзяржаў і ў самы апошні час такі дагавор зроблен з Польшчаю і Францыяй.

Працоўныя масы нашае краіны ведаюць і цалкам адабраюць гэту палітыку Савецкага ўраду. Але яны ведаюць таксама, што імпэрыялісты ня хочуць разбройвацца, што на Захадзе і на Ўсходзе ёсьць шмат ахвотнікаў справакаваць нас на вайну, што пасьпяховасьць нашае мірнае палітыкі шмат залежыць ад нашае сілы і гатоўнасьці даць належны адпор усякім спробам інтэрвэнцыі.

Няўхільна праводзячы ў сваіх дачыненьнях з капіталістычнымі дзяржавамі палітыку міра, Савецкі Саюз у той самы час умацоўвае сваю абараназдольнасьць, павялічвае баявую магутнасьць Чырвонае арміі. Тут няма ніякае супярэчнасьці. Чырвоная армія нам патрэбна таму, што яна зьяўляецца ўзброеною апораю пралетарскае дыктатуры—ахоўвае мірную сацыялістычную працу рабочых і сялян СССР ад ваеннага нападу імпэрыялістаў. Такім чынам, Чырвоная армія зьяўляецца фактарам захаваньня міру.

Але кожны працоўны павінен разумець, што абараназдольнасьць краіны залежыць ня толькі ад аднэй Чырвонай арміі, але і ад пасьпяховага разьвіцьця нашае прамысловасьці, сельскае гаспадаркі, усёй эканомікі краіны цалкам, а таксама і ад вайсковае падрыхтоўкі працоўных. Інакай кажучы,—ад падрыхтоўкі тылу да вайны.

Падрыхтоўка тылу да вайны азначае заўчасную падрыхтоўку ня толькі эканамічных магчымасьцяй, але-ж і падрыхтоўку людзкіх мас да вайны, г. зн. каб мільёны працоўных мелі цяпер усе неабходныя веды і звычкі, патрэбныя для абароны пралетарскае дзяржавы.

Хто і якім чынам павінен праводзіць вайсковую падрыхтоўку працоўных гораду і вёскі?



**Радыё-студыя N-скага стралковага палка. Музычная група каля мікрафону.**

Першы і асноўны праваднік укараненьня вайсковых ведаў у масы грамадзянскага насельніцтва—Асоавіяхім, які вырас да сёнешняга дню ў шматмільённую арганізацыю і праводзіць вялізарную працу па абароназдольнасьці Савецкага Саюзу.

Другое—гэта шэфства працоўных гораду і вёскі над Чырвонай арміяй; у гэтым выпадку пастаноўка ваеннае працы ляжыць на падшэфных вайсковых частках.

Асноўная ўвага, сілы і сродкі вайсковае падрыхтоўкі працоўных павінны быць зьвернуты: на супрацьпаветраную абарону, хімічную абарону, тэхнічную прапаганду, стралковую справу і авіяпрацу.

Супрацьпаветраная абарона тылу мае за сваё прызначэньне забясьпечыць ва ўмовах паветранага нападу праціўніка плянавае жыцьцё і дзейнасьць тылу краіны, бесьперапыннасьць выкананьня вытворчых функцый прамысловымі, сельскагаспадарчымі, камунальнымі і іншымі прадпрыемствамі, бесьперапынную і інтэнсыўную дзейнасьць транспарту і нармальную працу палітычных, вайсковых і адміністрацыйных цэнтраў краіны.

У адпаведнасьці з мэтамі, што пастаўлены службе супрацьпаветранае абароны, яе задачы будуць:



**Быт Чырвонае арміі. Старшы зьмены N-скага стр. палка атрымлівае абед у дзяжурнага повара.**

1. Паралізаваць баявую дзейнасьць паветраных сіл праціўніка шляхам наступальных дзеяньняў свае авіяцыі.

2. Перашкодзіць, каб паветраныя сілы праціўніка не нарабілі нам вялікае шкоды на тэрыторыі, якая абараняецца, арганізаваўшы магутныя актыўныя сродкі (зэнітная артылерыя, зэнітныя кулямёты, зьнішчальная авіяцыя, палявая артылерыя, прыстасаваная страляць па паветраных мэтах, пражэктары, прылады для вылоўліваньні гукаў, якія абслугоўваюць актыўныя часткі, і г. д.).

3. Правесьці належныя мерапрыемствы, каб праціўніку цяжэй было знайсьці аб'ект нападу, праз стварэньне розных маскавальных мерапрыемстваў.

4. Ліквідаваць вынікі нападу, якія былі зроблены бамбардыраваньнямі і іншымі дзеяньнямі паветраных сіл праціўніка праз стварэньне пасыўных мерапрыемстваў, да якіх адносяцца—арганізацыя супрацьхэмічнае службы, мэдычна санітарнай, супроцьпажарнай, аховы парадку і інш.

Пры арганізацыі СПА (супроцьпаветранае абароны) тылу аснаўная ўвага бярэцца на абарону прадпрыемстваў, што маюць абароннае значэньне. У той самы час забясьпечваюцца агульнаю сыстэмаю СПА саўгасы, калгасы і астатняе насельніцтва.

Нармальнае жыцьцё краіны ні на адну хвіліну не павінна спыняцца. Ніводзін працоўны ў час налёту не павінен пакідаць свайго месца на вытворчасьці. Асноўнае правіла СПА—найбольшы парадак у час налёту, найхутчэйшая ліквідацыя вынікаў налёту.

Кожны рабочы пасёлак, квартал, кватэра, дом, саўгас, калгас трэба зрабіць няпрыступнаю цытадэляю супроцьпаветранае абароны.

У рабочым пасёлку, квартале, саўгасе, калгасе, доме ўсе працоўныя павінны быць актыўнымі членамі Асоавіяхіму.

Трэба каб усе працоўныя ведалі асноўныя правілы паводзін пры паветраных налетах, цалкам ліквідавалі сваю няпісьменнасьць па СПА, трэба, каб усё насельніцтва было забясьпечана супроцьгазамі і каб умелі імі карыстацца. Трэба мець супроцьпажарныя сродкі, сродкі першае мэдычнае дапамогі і сродкі па ліквідацыі вынікаў нападу (дэгазацыйныя) і ўмець імі карыстацца.

Нарэшце трэба пажадаць, каб праца па супрацьпаветранай абароне сярод працоўных ня была толькі працаю на паперы, каб усе працоўныя ведалі, што можа ўяўляць з сябе паветраная вайна пры не арганізаваным, які ня ўмее абараняцца, тыле. Трэба заўсёды памятаць выраз Сальне, былога таварыша міністра паветранага флёту Ангельшчыны. „Паветраная вайна,—казаў ён, — ня гледзячы на ўсе міжнародныя дагаворы, будзе весьціся ў тыле няпрыяцельскае краіны. Прамысловасьць варожае краіны будзе зьнішчана, яе нэрвовыя цэнтры зруйнаваны, падвоз жыцьцёвых прыпасаў спынен і тым самым воля нацыі ваяваць будзе зламана". Пературэньне рабочых пасёлкаў, кварталаў, саўгасаў, калгасаў і дамоў у цытадэлі абароны СПА абавязак усіх працоўных. На аснове ўдарніцтва і сацспаборніцтва самога насельніцтва трэба зараз-жа ўзяцца за гэту працу.

Пытаньне стралковае падрыхтоўкі працоўных, разам з пытаньнем СПА павінна займаць вялікае месца ў вайсковай падрыхтоўцы.

Навучыцца трапна страляць у адпаведнасьці з новым курсам страляньня, правільна арганізаваць стральбу, догляд і захаваньне зброі, арганізаваць навучальныя ціры, стрэльбішчы і клясы—просты абавязак усіх арганізацый Асоавіяхіму. Магутнаю зброяй падвышэньня стралковае падрыхтоўкі зьяўляецца сацыялістычнае спаборніцтва і ўдарніцтва, у якім усе, без выключэньня, асабліва камсамольцы і партыйцы павінны браць самы актыўны ўдзел, бяручы на сябе канкрэтныя абавязацельствы на пэўныя тэрміны стралковага навучаньня. Толькі на аснове веданьня ваеннае тэхнікі як сродку нападу і абароны працоўныя зьяўляюцца вернымі памочнікамі Чырвонае арміі, а разам з тым і абароназдольнасьці краіны.




# КУРС НА МОРА

І калі карабель ужо багата выхадзіў, і качагаркі згаладаліся як адна, на лінкоры*) абвяшчаецца вугальны аўрал.

Шырачэзная баржа з вугалем разважна падыходзіць да лінкораўскага борту.

Чырвонафлётцы выстраены. Адзінства формы зараз не захоўваецца—у трусох і ў рабочых касцюмах, у бесказырках і бяз іх, з павязкай на галаве і без павязкі. Афармлены групы, брыгады. Заключаны ўмовы сацыялістычнага спаборніцтва.

Наладжваецца жывы канвеер. Кошыкі адзін за адным у момант насыпаюцца вугалем. Рытмічна плывуць з баржы па жывым ланцугу з нагнутых чалавечых постацяй, пераходзяць з рук у рукі. Узносяцца на борт карабля, і вугаль з іх ссыпаецца ў вугальныя ямы. Побач з чырвонафлётцамі на вугальнай пагрузцы працуе і камандны склад.

На гарматнай вежы разьмясьціўся аркестр. Рытмы музыкі ўваходзяць у суладнасьць з рытмам працоўных рухаў.

Узьнімаецца вугальны пыл. Ён асядае на людзей, густым пластам укрывае цела, сьмерчам узносіцца ўвысь, усыпае палубу. І каб ён не прабіваўся ў нутро карабля—выключана вэнтыляцыя.

За чатыры гадзіны сотні тон вугалю перагружаны ў вугальныя ямы. Удзельнікі аўралу разыходзяцца. Целы чорныя, як у нэграў. Блёндыны перафарбаваліся ў брунэтаў. Сябры не пазнаюць адзін другога. Жартуюць, сьмяюцца.

Лінкор мыецца. Мыюцца людзі, скатваецца**) палуба. Над морам ноч. Сьвецяцца агні лінкораўскіх суседзяў—крэйсароў і эсмінцаў.

Яшчэ ўчора на борту карабля адвячоркам няпрыкметна падыходзіў транспарт „Чырвоны вадалей". Ён перакідаў на борт на адну бразэнтавую кішку і гадзінамі да позьняе ночы качаў лінкору ваду.

А сёньня а дванаццатай гадзіне ўжо заступіла паходная вахта.

Пляччыстыя качагары з высока-разбухшаю мускулатурай разьвіваюць пару. Качагаркі з апэтытам прагаладалага глынаюць вугаль. Машыны праграюцца. Нарастае тэмпэратура. Ля качагарак яна даходзіць да 50°—60°.

На грот-мачце ўзьнімаецца гюйс (вымпел)—ён гаворыць пра пачатак кампаніі.

Прышлі катэры, што прывезьлі апошнюю партыю камандзіраў і чырвонафлётцаў. Катэры адзін за другім падводзяцца да пад'ёмнага крана і ўзьнімаюцца на борт. На палубе нічога лішняга. Усё прыбрана, усё замацавана трывалымі тросамі. Дзьве лінкораўскія трубы густа расьцілаюць дымавыя воблакі.

І людзі на караблі настаражыліся. У праходах між кают і казэматаў рухава прабягаюць каманціры. Іх руплівы крок скрадваецца палубным лінолеўмам.

Плян паходу даводзіцца да байца. Ён чоткі і дасканала канкрэтны.

У кают-кампаніі—нарада начскладу сумесна з палітапаратам і сакратарамі партячэек. Яна не зацяжная і строга рэглямантаваная. Сакратар калектыву КСМ Вася Макееў дае паказаньні сакратарам камсамольскіх ячэек. Сам ён ужо адзеўся ў рабочы касьцюм і зьбіраецца ісьці на час паходу ў адну з качагарак.

Мэханізм заведзены. Ён пачынае працаваць.

На сьценках, у праходах, на вольных месцах расклейваюцца ўдарна выдадзеныя паходныя бюлетэні і насьценкі. Зьяўляюцца лёзунгі. Асноўны з іх:

„Бальшавіцкая патрабавальнасьць, арганізаванасьць і жалезная дысцыпліна забясьпечаць чоткую работу мэханізмаў і поўную без'аварыйнасьць".

„На посьпехі нямецкай кампартыі адкажам новай шарэнгай зьверхсрочнікаў".

Лёзунгі размалёваны рукой мастакоў—чырвонафлётцаў. Надрукаваны ў лінкораўскай друкарні.

Сырэна папярэджвае пра выхад.

Лінкор зьнімаецца з бочак, на якіх ён стаяў у бухце. Ён ледзь прыкметна ўсім сваім масывам пачынае рухацца. Глядзіш з палубы і здаецца—не карабель плыве, а плывуць кудысьці ўзьбярэжжы з мураванымі домікамі, скалы, і горы, лінкор-жа непарушна стаіць на воднай гладзі. На самай-жа справе карабель, вышаўшы спакойна з бухты, пачынае набіраць ход.


Лінкор вышаўшы з бухты, пачынае набіраць ход.

*) Старонкі з кніжкі „Паўднёвая вахта", напісанае ў выніку месячнага прабываньня аўтара на барту падшэфнага ленінскаму камсамолу Беларусі лінкора „Парыская Камуна".

**) Змываецца.





**Камандзір лінкора тав. А. Летавет.**

У падразьдзяленьнях за гэты час пасьпяюць правесьці работу. Пра становішча Нямеччыны, пра работу і барацьбу КП Нямеччыны прачытваюцца і абмяркоўваюцца матар'ялы з „Красного черноморца", з кніжок, з брашур.

І калі над караблём прагучыць нэрвовы сыгнал трывогі—байцы на сваіх пастох. Супроцьгазы напагатове. Выхады на верхнюю палубу, дзьверы шчыльна задраяваны.

Над морам зьвісае змрок. І на караблі тушаць асьвятленьне. Баец павінен правільна арыентавацца і ў цемені. І ў цемені павінен беспарыўна кіраваць сваімі мэханізмамі. Ведаць, дзе знаходзяцца іх часткі. Умець вокамгненна адшукоўваць патрэбныя прылады.

Перагаворныя трубкі праносяць новыя каманды, перадаюць пра новыя ўступленьні ў партыю і камсамол. Разносяць вынікі сацыялістычнага спаборніцтва між баявымі падразьдзяленьнямі.

Адбой.

Чырвонафлётцы высыпаюць на верхнюю палубу. Сыходзяцца на бак перакурыць. Абменьваюцца тым, як правялі і з чым сустрэліся пры вучэбнай баявой трывозе.

Лінкор ідзе ў ноч. Мора зьлёгку расплёсквае хвалі. Пеніцца і шуміць каля бартоў. Насустрач прыходзяць парыўчата-густыя морскія вятры. І лінкораўскія пражэктары даўжэзнымі слупамі сьвятла абмацваюць далягляд.

Ня сьпіць камандзір карабля таварыш Летавет. Са свайго камандзірскага мосьціка ён пільна сочыць за курсам карабля. Аддае загады. Кіруе ходам і жыцьцём усяе морскае браняванае цытадэлі, імя якой—лінкор. Падкрадаецца спакусны сон і змора. Тагды ён у соты раз перамервае крокамі мосьцік. Нанава набівае сваю люльку і глыбока зацягваецца табачным дымам. Яго стройна-высокую і шчыльна-складзеную постаць скрадвае начны змрок.

На баку ўсім сваім цяжарам грукочуць масыўныя тросы. Якар аддадзены.

А сёньня вучэбная стральба.

І гэта можна прасачыць па ўсім—па заклапочанасьці на тварах камандзіраў, па ледзь прыкметнай звонку настарожанасьці чырвонафлётцаў.

Рэўваенсавет МСЧМ прыняты на борт. Сьцяг Рэўваенсавету ўзьняты над караблём.

Старшы штурман Булыкін, прабягаючы па левым зрэзе, кідае наляту групе камандзіраў:

— А газэтку я сёньня на цэлых чатыры старонкі даў!

У ягоным голасе празьвінела ўнутраная радасьць і гордасьць адказнага рэдактара, і ён зьнік у дзьвярох у артылерыйскую палубу.

І праз пэўны час шматтыражка „На вахце" ужо шамаціць па руках. Яна тлумачыць задачы паходу, дае матар'ялы пра падрыхтоўку да стральбы.

Трэніруюцца наводчыкі. Гаспадары гарматных вежаў правяраюць баявую здольнасьць свайго загадваньня. Рыхтуецца гарматная прыслуга, увесь асабісты склад.

У каютах, у кубрыках вывінчаны электрычныя лямпачкі. Са сьцен зьняты ўсе рэчы, што могуць учасе стральбы сарвацца і разьбіцца. „Лінкораўская эскадра"—катэры—для бясьпечнасьці спушчаны з борту і адышлі ў адкрытае мора.

Лінкор раскройвае шчыльны пласт вады. Пакідае за сабою пракладзеную дарогу. Разрэзаныя караблём хвалі доўга ня могуць сысьціся і выраўнаваць морскую паверхню.

Сыгнал трывогі.

Мы ўглядаемся на мора з баявое кармавае рубкі. Рубка задраявана. Карабель робіць кругі.

На морскім далягладзе няўзброенымі вачыма відаць, як адзін з эсмінцаў на пэўнай адлегласьці ад сябе цягне палотнішчы высокіх і шырокіх шчытоў.

Сакратар лінкораўскага парткалектыву тав. Хамэнка з біноклем на шыі, сам нізкаваты і круглы чалавек, падыходзіць да перагаворнай трубкі.

— Унізе!—гаворыць ён у трубку.

— Ёсьць унізе!—перадаецца скандэнсаванымі паветранымі хвалямі адказ.

— Гаворыць сакратар парткалектыву Хамэнка. Вы ведаеце асноўны лёзунг паходу?

— Ведаем.

— Скажэце.

— „Пад сьцяга Рэўваенсавету МСЧМ дамо зададзеную хуткастрэльнасьць".

— Усё.

Званок. Ён падыходзіць да тэлефону і прымае рапарт пра жаданьне чырвонафлётцаў з качагарак застацца на зьверхтэрміновую службу.

Набліжаецца момант стральбы. Тав. Хамэнка па-бацькаўску клапатліва радзіць заткнуць вушы ватаю, што робіць аднačасна і сам.

Б'е бортавая артылерыя. Пробныя стрэлы зроблены.. Артылерыя пераходзіць на паражэньне... Залп, другі, трэці...

З баявое рубкі відаць, як знарадамі разьбіваюцца шчыты, як уздымаюцца і плешчуцца ўвысь водныя масывы.

Тэлефоны прысьпешана перадаюць:

— Стральба бортавай артылерыі камандаваньнем прызнана на „добра". Перадайце ў суседнія казэматы!

— Ёсьць!

У стральбу рыхтуецца ўступіць асноўны калібр. Стральба з асноўнага для лінкора—падзея. І яе чакаюць з востраю настарожанасьцю і нецярплівасьцю.

Карабель робіць новыя кругі. Гарматныя вежы паварочваюцца. І шэрабялявыя жэрлы гармат асноўнага калібра накіраваны на шчыты.

... Паветра ўзрываецца рэзкім аглушальным стрэлам. Яно моцным струменем урываецца ў рубку і зрывае з галоў шапкі.



**Верхняя палуба лінкора.**



**Катэр і баркас напаўняюцца адпушчанымі на бераг.**

Пачынаюцца залпы... Шырачэзныя языкі агню і воблакі дыму... Лінкор дрыжыць усёй сваёй істотай... Ён пачынае даваць даволі прыкметны крэн... Налева... Направа... І ў гэтай навальніцы парывістых гукаў, агню і дыму—вострае вока наводчыка, набітая рука артылерыста не здадуць!

„Варожыя" самалёты атакуюць лінкор. Кідаюць „бомбы". „Бомбы", начыненыя цэмэнтам, падаюць на верхнюю палубу і ўзрываюцца. Кружацца самалёты. Іх растрэльвае зэнітная артылерыя.

Стральба з асноўнага калібра на сваёй хуткастрэльнасьці зьявілася ўзорнай для ўсяго нашага флёту. Тры-чатыры хвіліны... Два-тры залпы... Сотні тон мэталю па варожым стане.

Прэміруецца больш сарака чалавек чырвонафлётцаў, камандзіраў паліт-работнікаў. І першая прэмія сярод іх—за харошую распарадчасьць, за ўмелую расстаноўку сілы,—за прыкладнае кіраваньне агнём належыць таварышу Чалпанаву—старшаму артылерысту лінкора, камсамольцу першага набору ў флёт.

Паказваюцца берагі. Мора сьвеціцца мільёнамі сонечных водблескаў. Белыя чайкі ўзьвіваюцца над вадою.

На борт узьнімаюцца параваны. Яны ішлі на сталёвых тросах па абодвых бакох карабля і ахоўвалі яго ад мін.

Іх вострыя зубы падрыхтаваны перагрызаць мінныя шыйкі. У іхнім выглядзе ёсьць штосьці ад рыбы і самалёта.

Берагі набліжаюцца. Перад вачыма зьяўляюцца домікі. Яны пераростаюць у дамы.

Лінкор уваходзіць у базу. Грае лінкораўскі аркестр.

---

## Электрык Андрыянаў

Цягнік ішоў да Ўралу.

Ленінградзкая вобласьць—радзіма—засталася далёка. Бацькі паўміралі. Апошняе разьвітаньне з сёстрамі—і сямігадовы хлапчук спрабуе станавіцца на ўласныя ногі. Гэта на схоне 1916 году.

У Катлыма—Косьвінскай Горнай акрузе Аб'яднаньня дзяржаўных плацінавых прадпрыемстваў трэсту „Уралплаціна" на дразе*) № 5 малатабойнічае ён цэлае дзесяцігодзьдзе.

Шматлюдныя рабочыя казармы. Хлапчук атрымлівае „новае" хрышчэньне. Пасьля працы рэгулярна расьціскаецца бутэлька... Кампанія адзін—у адзін. Ложкі ў бараках пераварочваюцца дагары нагамі. З хрустам і звонам разьлятаюцца шыбы вакон.

Хлапчук прыглядаўся, звыкаў, актывізаваўся і „хвасьцістам" напэўна ня бываў.

У 27-м работы скончаны і сямнаццацігадовы юнак—сьвердлаўшчыкам пятага разраду на гары Благадаці.

Тут ён пачынае рэгулярна наведваць вайскова-фізкультурны гурток. Пад уплывам таварышовых парад ідзе ў камсамол. Адначасна лікбез ліквідуе яго няпісьменнасьць.

З радавога ён пераростае ў камсамольскага актывіста.

Членствуе ў бюро ячэйкі. Працуе з піянэрыяй. Сакратарствуе ў ячэйцы, у калектыве. У 28-м перадаецца ў партыю.

Надыходзіць знаёмства з Таганрогам. Мэталюргічны завод, мэханічны цэх, памоцнік кацельшчыка—яго рабочае месца. Як лепшы ўдарнік камандыруецца ў сёмы трэст на будаўніцтва нова-мартэнаўскага цэху.

А ў 1931 годзе нараджэнцы 9-га году прызываюцца ў Чырвоную армію.

І ў сьпісах асабістага складу лінкора „Парыская камуна" сярод іншых ужо можна знайсьці і чырвонафлётца Андрыянава Якуба Рыгаровіча.

Прысадзісты, сьветлавалосы ён рухава прыбягае ў каюту № 21 -са жменяю густасьпісаных лісткоў. Садзіцца на стул. Чакае, покуль вызваліцца ганарыстая і непаслухмяная машынка „Манарх".

Ён прынёс шэраг допісаў у газэты. У іх ідзе гутарка пра патрэбу клясавай пільнасьці пры адборы ў армію і флёт прызыўнікоў 10-га году. Ставіцца шэраг практычных задач перад камсамольскімі арганізацыямі ў сувязі з прызывам.

Ён прынёс і яшчэ адзін дакумант. Дакумант пра самога сябе. Гэты дакумант матар'ялы з гадовай службы ў флёце. Справаздача перад камсамоліяй Таганрога, якая выправіла Яшку Андрыянава ў флёт. Пералік тых абавязацельстваў, якія ён узяў на сябе і пасьпяхова выканаў. У гэтым дакуманце запісана, што „Тав. Андрыянаў, па спэцыяльнасьці электрык, дасканала аўладаў тэхнікай свайго загадваньня, мае шэраг заахвочваньняў за прыкладныя адносіны да выкананьня сваіх абавязкаў, мае нуль дысцыплінарных праступкаў".

Вусна Яша дапаўняе запісанае на паперы.

— Шэсьць месяцаў вучыўся ў аб'яднанай школе... Сядзеў што называецца на двойках. Нялёгка было ісьці поруч з перадавікамі. Я-ж толькі што пісьменнасьцю аўладаў. Але экзамен здаў на „добра".

На лінкоры абслугоўвае электра-мэханізмы, вэнтыляцыю, асьвятленьне. Загадваў халадзільнікам. За прыкладныя адносіны да загадваньняў



**Старшы артылерыст тав. Чалпанаў—камсамолец першага набору ў флёт.**

---

*) Мэханізм, што здабывае і прамывае плаціну.

атрымаў два нечарговыя звальненьні на бераг. А зараз у загадваньні Андрыянава пражэктар. Ён член прэзыдыуму партыйнай ячэйкі і загадчык сэктару баявой падрыхтоўкі па ўсім сваім дывізіёне.

Як вырас чалавек!

Пасьля чаю, калі пачынае нарастаць дваццаць другая гадзіна, вячэрні змрок над бакам пранізваецца чырвонымі агеньчыкамі цыгарак. Праз вузкія дзьверцы за цяжка-мэталёвую сьцяну—хвалярэз, на больш бясьпечнае для курэньня месца праходзяць чырвонафлётцы пасьля дзенных заняткаў і вучобы. Сюды зьбіраюцца з усяго карабля перакурыць, пабалакаць пра пражыты дзень, успомніць прыемнае і харошае.

Мы рассаджваемся на масыўных зьвеньнях тросу, на якім трымаецца шматпудовы сталёвы якар. Рукі машынальна загортаюць у тонкую да прасьвету паперу флёцкую махорку.

Курыць Пятро Ляшкоў—поўнатвары і гаваркі хлапец, сам з Беларусі. Закурвае Яша Андрыянаў. З нагруднай кішэні яго рабочага касьцюму выглядаюць „Брускі“ Панфёрава.

— Падчытваў трохі сёньня ў абед.

Кампанія папаўняецца. Агонь цыгарак цьмяна асьвятляе твары—профілі іх расплываюцца ў вечаровай змрочнасьці.

Гутарыць пра рыбу—скумбрыю, што тут-жа за бартом плёскаецца ў моры, і якую „нелегальным“ шляхам тут-жа падсьцерагаюць лінкораўскія „рыбакі“. Потым згадваюць свой прыход на карабель, калі няпрывычныя ногі чапляліся за кожны комінгс *), калі плечам было цесна ў вузкіх на першы погляд праходах унутры карабля.

— Прыходжу гэта я на карабель,—аказваецца з цемені вясёлы голас,—разгубленасьць нейкая... Ступіць упэўнена не асьмелішся... Усё новае... Па нашай-жа рэчцы, дзе рыбачыў я, лінкоры ня плавалі. Блытаюся ў назвах... Дзе кнэхт, а дзе бімс—і ў толк не вазьму. Гляджу—хлопцы свае, на во! Ды жартаўнікі да таго—сарві ды падай.

„А ну, Яшка, вядзёрка ў рукі, разводзь фарбу ды айда качагаркі фарбаваць“,—кажуць мне. „А навошта, пытаю качагаркі фарбаваць“. „А вось пару разводзіць будзем!“—адказваюць. Гляджу—твары сур'ёзныя... Толькі зрабіў нясьмелы крок—а яны ў рогат. Нялоўка стала... Кроў да шчок прылівае. Але і сам сьмяюся.

— А гарбату цябе, часамі, на клётык **) піць не пасылалі?—пытаюць з цемені.

Гарбаты ўжо на клётыку піць не давялося... Ведаў, што гэта такое, папярэдзілі землякі...

— А я ліст атрымаў,—спакойна кажа Яша Андрыянаў,—ад брыгадзіра свайго, з таганрогскага мэталюргічнага. Хочаце—пачытаць магу. Чыркні хто запалак.

Брыгадзір перадае сяброўскае прывітаньне і паведамляе што андрыянаўскі ліст атрымаў ён 14-га гэтага чэрвеня, на які адразу-ж і адказвае.

„А зараз табе, чытае Андрыянаў, напішу пра свае новыя мартэны. Гэта не мартэны, а гіганты і пушчана ўжо дзьве печы, якія ў суткі даюць 480 тон мэталю. І добра помню, як ты працаваў у маёй брыгадзе. Дык будзь-жа, Яша, з такім энтузіязмам і на вайсковай службе і заўсёды будзеш выходзіць пераможцам. І ня больш, як праз два тыдні, канчае брыгадзір, будзе пушчана і трэцяя печ, у новатрубным ужо два карпусы, калон, таксама паставілі. Вось, Яшка, якое ў нас дасягненьне. Да пабачэньня. З прывітаньнем да цябе брыгадзір твой Гацэнка Грыгор“.

Быццам бацька ён мне, дадае Яша пра Гацэнку,—чулы такі. харошы... сёстры ў мяне ёсьць... толькі штосьці ня клеіцца ў мяне з імі... дармо што радня...

Скручваем па другой цыгарцы, па трэцяй. Гутарка пераходзіць з аднаго на другое.

А Яша Андрыянаў думае над зьместам свайго адказу, які заўтра паплыве ў Таганрог у канвэрце з надрукаваным на машынцы адрасам.

---

*) парог.

**) вяршыня мачты.



**Чырвонаармейцы N-скага стр. палка ў пакоі адпачынку за чытаньнем газэт і часопісаў.**

СЬЦЯПАН НОРТМАН

# Камбрыг Аверын

Вынятка з вучотна-вайсковага білету № . . . вельмі лякафічная. Але добра падумаўшы над гэтымі сьціплымі і афіцыйнымі весткамі перад вамі расчыніцца і стане ва ўсёй сваёй велічы гераічная эпапея грамадзянскай вайны, расчыняцца славутыя старонкі і традыцыі Чырвонае гвардыі і Чырвонае арміі.

У гэтай вынятцы—маленечкі кавалачак усёй эпапеі і яна апавядае пра чалавека-байца і камандзіра-героя, які лічыў і лічыць сваё жыцьцё нізавошта па параўнаньні з задачамі, што стаялі і стаяць перад Рэспублікай.

Чалавек не задумваўся над тым, каб сваё маладое і поўнакроўнае жыцьцё аддаць за справу рэвалюцыі.

Вынятка гаворыць пра *Аверына* Сяргея Осіпавіча—камандзіра кавалерыйскай брыгады, былога атамана паўстанцкага партызанскага атраду…

---

… 1917 год. Кастрычнік. Зімні—апошні аплот буржуазна-дэмакратычнае рэспублікі — узяты паўстаўшымі рабочымі і салдатамі.

Над Зімнім узьняты чырвоны сьцяг, акроплены крывёю некалькіх пакаленьняў-змагароў за справу рабочае клясы, за волю, за дыктатуру пралетарыяту.

Вецер палошча чырвоны сьцяг, на якім залатымі фарбамі — серп і молат—эмблема саюзу рабочае клясы і працоўнага сялянства.

Сьцяг чырваньню палынее пад праменьнямі восеньскага сонца…

Над Зімнім лунае чырвоны сьцяг, а над краінай—воля…

… На Украіне пануюць акупанты-немцы і падтрыманы іхнай зброяй гетман Скарападзкі, які марыць аб „Украінененьцы“, аб сівых казацкіх чубох і. . моцнай руцэ кайзэра Вільгельма II…

А па гарадох, на рабочых ускраінах, па мястэчках і вёсках, па бядняцкіх мазанках чыталіся бальшавіцкія лістоўкі і газэты, запальвалі сэрцы ненавісьцю да акупантаў, да гетмана і ўсяго таго, што прыгнятала вякамі…

Па вечарох, калі над горадам ноч апушчала сваё пакрывала, калі ў рэстаранах вылётвалі коркі з бутэлек і зьвінелі бакалы, калі пілі за „Украіну-неньку“ і гандлявалі ёю налева і направа, каб здабыць міністэрскія партфэлі… у цесных сутарэньнях-кватэрах рабочых ускраін зьбіралася моладзь і старыя. Вяліся доўгія гутаркі і спрэчкі, словы якіх гарэлі помстай да прыгнятальнікаў, словы, якія зьвязваліся, што зьвеньні аднае цэпкі.

Словы гэтыя хвалявалі, натхнялі і клікалі на барацьбу, на неадкладныя дзеяньні…

У пакоях было накурана і дым бялесымі сівавата-празрыстымі хмарамі вісеў пад стольлю…

Вячэрнія і начныя гамонкі і спрэчкі пераводзіліся на няведаючую літасьці мову вінтовак і рэвальвэраў…

Кулі—гэтыя нябачныя простым вокам кусачкі былі бязьлітаснымі да ворагаў рэвалюцыі.

Куля партызана біла бяз промаху. Не адзін гетманец валіўся з каня ў прыдарожны пыл, высокую стэпавую траву і каменьні ў лагчынах.

Так, у спрэчках з нацыяналістамі, анархістамі, з рознай падхалімнай дрэньню, у запальваючых выступленьнях, у барацьбе з вінтоўкай у руках расьлі і гартаваліся партызанскія атрады на Украіне, адным з кіраўнікоў каторых быў і таварыш Аверын Сяргей Осіпавіч.

* * *

Азьвярэлыя банды гетманцаў, паблiскваючы шаблямі, з гікам і прысьвістам налятали на вёскі і наводзілі „парадкі“.

Усьцілалі вуліцы трупамі бязьвінных людзей…

Гарачая кроў лілася на пыльныя вуліцы і зялёную траву. Дзеці заставаліся сіротамі, без бацькоў, бяз прытулку.

Над вёскамі стаяў лямант і царкоўны звон, што хаўтурным бомканьнем казаў аб пажарах…

І вісеў над Украінай гэты хаўтурны звон і водбліскі пажарах…

І расчыняла вочы тым, хто яшчэ верыў у „самостийність Украіні-неньки“. Кожны бачыў гэтую „самостийність“ сваімі ўласнымі вачыма, кожны ведаў, чаго яна варта і што прыносіць працоўнаму.

І моладзь, а разам і старыя ішлі цёмнаю ноччу ў партызанскія атрады. Ішлі ў атрады—цягнуліся, як кветкі да сонца, бачучы ў гэтым адзіны правільны шлях к вольнаму жыцьцю.

Пакінулі Украіну немцы, а за імі, не пасьпеўшы зацьвісьці, завяў і гетман Скарападзкі.

Але цела краіны рвалі пятлюраўцы. З фронту іх білі палкі Чырвонае арміі, а з тылу—партызанскія атрады.

---

У 1919 годзе Сяргея Осіпавіча — былога пастуха-горца, у гэты час атамана паўстанцкага партызанскага атраду—накіравалі камандзірам аўта-броняатраду, а неўзабаве—камандзірам другога зводнага Башкірскага кавпалка. На чале гэтага палка ён і вёў барацьбу з пятлюраўцамі.

А калі над Чырвоным Піцерам навісла пагроза ад арміі Юдзеніча, Сяргей Осіпавіч абараняў сэрца рэвалюцыі з пулкаўскіх вышынь.

… Юдзеніч разьбіты. Ягоная, нашчэнт растрапаная армія пацягнулася ў белую Фінляндыю, каб адтуль галодным зьверам выглядаць зручны момант для нападу, каб шкодзіць краіне зладзейскімі нападамі…

Сяргея Осіпавіча, як уражэнца Каўказу, перакінулі ў Першую Чырвоную Каўкаскую кавдывізію, у якой ён ад памкампалка прайшоў шлях да камбрыга і прадстаўлены к нагародзе *Ордэнам Чырвонага Сьцягу*.

25-га сьнежня 1919 году, па загаду штабу дывізіі, першы і другі палкі павінны былі заняць станіцу Грамаслаўскую, у якой знаходзіліся варожыя часьці.

Другі полк атрымаў заданьне выйсьці на 3 гадзіны раней з тым, каб усё падрыхтаваць да бою.

Пачалася завіруха: замятала дарогу—хаўтарным сьпевам сьвістала ў вушы—сьнегам сьляпіла вочы—коні правальваліся ў сумёты і выбіваліся з сіл—*людзі замярзалі ў сёдлах*…

А наперадзе чакаў бой: *рашучы і складаны*.

А восьмай гадзіне вечару першы полк на чале з таварышам Аверыным падыходзіў да месцу прызначэньня. Па дарозе сустрэўся штаб другога палка і паведаміў, што полк акружан ворагамі.

Становішча ўскладнялася. Доўга раздумваць ня было часу. І Сяргей Осіпавіч, узяўшы з сабой 30 чырвонаармейцаў, памчаўся ўперад, каб высьветліць становішча 2-га палка і варожых сіл.

Цемра і завіруха не давалі магчымасьці арыентавацца. І тады былі падпалены стагі сена і саломы, што стаялі побач з станіцай. Языкі полымя пабеглі па стагох, асьвятлілі месца бойкі, а 1-шы полк на чале з Сяргеем Осіпавічам лявінай памчаўся ў атаку.

За пе шай атакай былі: другая і трэцяя;

былі—адбіты контратакі ворага.

Быў: выручаны 2-гі полк, акрамя 18-ці чырвонаармейцаў, што папаліся ў палон і раніцою былі знойдзены пасечанымі…

Моцны вораг у складзе пяхотнай брыгады, кавалерыі і артылерыі быў разьбіты:—

двума кавпалкамі чырвоных.

Мінула пяць дзён і, знаходзячыся ў станіцы Майёравай, начдывізіі таварыш Гай даў загад Сяргею Осіпавічу выехаць з адным эскадронам у тыл ворагу вёрст на 80 з заданьнем:—

— здымаць і высылаць тапаграфічныя здымкі,—
— даваць весткі пра ворага,—
— падрываць масты і варожыя пабудаваньні,—
— перашкаджаць ворагу плянамерна адступаць.

Заданьне сур'ёзнае, адказнае і ад яго выкананьня залежаць посьпехі ўсяе дывізіі.

Праз два дні, у часе наступу 1-га палка на ст. Рамонтная, у той час, як шматлікі вораг павёў контратаку, Сяргей Осіпавіч са сваім эскадронам нечакана зьявіўся ў тыле ворага, ня даў яму апамятавацца і кінуўся ў атаку.

Варожыя сілы дрогнулі, пачалася паніка і адступленьне…

---

Пасьля Паўднёвага фронту таварыш Аверын быў на Заходнім супроць белапалякаў, потым працаваў на савецка-румынскай мяжы, адбіваючы напады бандаў. Працаваў у Маскве.

І на кожнай рабоце гарэў нянавісьцю да ворагаў рабочае клясы, не шкадаваў сваіх сіл і энэргіі за справу рэвалюцыі.

І калі зноў загрымяць гарматныя набоі і кінуцца ворагі на Савецкі саюз, Сяргей Осіпавіч зноў сядзе на каня і зноў цавядзе ў бой чырвоныя палкі рабочых і сялян!

Сьнежань 1932 г.
Менск.

## Р. МУРАШКА




Малюнак Б. Малкіна

# Бойка ў горадзе

*(Урывак з кіно-аповесьці „Сын“).*

Тэлеграма.

„Его Превосходительству Командующему Виленскимъ Военнымъ округомъ.

Жизнь чиновъ полиціи, особенно высшихъ, въ большой опасности. Беспорядки усиливаются по всѣму уѣзду. Крестьянами деревни Шамки подъ руководствомъ боевой дружины социалъ-демократовъ едва не убитъ помѣщик Вайниловичъ; именіе сожжено, имущество разграблено; рубится лѣсъ. Усиливаются противоправительственные выступления разныхъ революціонныхъ партій. Поголовного обыска произвести не могу по недостатку силъ. По договоренности съ Воинским Начальникомъ конвойную команду переводимъ на патрульную службу. При первой возможности произведу частичные обыски и аресты. Во избѣжаніе имѣющихъ быть большихъ беспорядковъ, асобенно въ праздникъ Воздвижения, а также для ликвидаціи боевой социалъ-демократической дружины требуется безотлагательная присылка вооруженной воинской силы.

Исправник Н-ского уезда
Бураковъ.

Узьнікае габінэт іспраўніка з пісьмовым сталом пры вакне, з рознымі прыгожымі драбніцамі, раскіданымі на ім, з партрэтам, Нікалая II на сьцяне.

Іспраўнік перачытвае тэлеграму і націскае гузічак настольнага званка.

На званок іспраўніка ўбягае і становіцца ў пачцівай позе начальнік канцыляры́і.

Іспраўнік падае да адпраўкі тэлеграму.

Фігура начканца губіцца ў дальшым куту габінэту.

Блішчучы новай, з-пад іголачкі, формай, лёгкай танцоўнай хадой зьяўляецца памочнік іспраўніка. Ён садзіцца нядбайна бокам пры стале. Таксама нядбайна пальцы яго забаўляюцца з пышным кутасом, што зьвісае з эфэсу шаблі.

Іспраўнік адмыкае малюсенькім ключыкам мініатурную шкатулку, што стаіць на стале. У дзьвёх аддзяленьнях туга набіты крэдыткі і залатыя манэты. Іспраўнік ставіць шкатулку перад памочнікам.

— *Я вас чакаў, Забясьпечце парадак да надыходзячага сьвята Узьвіжаньня. Перагаварэце з архімандрытам Вячоркам. Арганізуйце сумленна-мысьлівых веруючых, якіх можна, супроцьпаставіць рознаму рэволюцыйнаму зброду. Гэта вам на выдаткі. Вялікі бяссрэбранік айцец эрхімандрыт з свае манастырскае казны таксама не пашкадуе на богаўгодную справу. Узмацнеце атрады пасланыя на пошукі гэтай архі-разбойніцкай дружыны.*

Памочнік іспраўніка хавае мініатурную шкатулку.

У пакоі з купалападобнаю стольлю, са сьценамі арнамэнтаванымі ў візантыйскім стылі, расьпісанай пульхнымі хэрувімчыкамі ў палёце і сказаньнямі з сьвяшчэннага пісаньня, рэлігійны паўзмрок. Перад цяжкім пазлачоным кіётам мігціць лямпадка.

У маленным экстазе перад кіётам на каленях айцец архімандрыт. Грандыёзная постаць высокага айца, з густою доўгаю грываю валасоў на патыліцы, застыла, як каменны слуп, у сузіраньні усявышняга.

Часьценька перабіраючы нагамі ўваходзіць служка-хлапчук і

— Убачыўшы айца архімандрыта на маленьні—

Становіцца на калені, зявучана хрысьціцца і б'е паклоны.

Грузна ўстае высокі айцец.

Праз вакно прабіваецца сноп сьвятла, асьвятляе густа зарослы архімандрытаў твар.

Служка падбягае і скарагаворкай дакладвае аб наведвальніку. Архімандрыт дазваляе прасіць.

Мяккім ценем зьнікае служка.

Лёгкай танцоўнай хадой, блішучы новай формай, пад благаславеньне архімандрыта падыходзіць памочнік іспраўніка.

Рука з складзенымі перстамі ўзмахнулася над галавою нявысокага памочніка і працягнулася для прывітаньня.

Увесь схаваўшыся ў вялікім мяккім крэсьле памочнік іспраўніка пераказвае даручэньне начальства.

Вочы архімандрыта маленна ўзьняты горэ, дзе на столі, адмысловым мастаком намаляваны кволыя пухленькія хэрувімчыкі.

Памочнік іспраўніка скончыў гаварыць і чакальна глядзіць у густа зарослы пухнаты твар архімандрыта.

Высокі айцец апускае погляд. Рука павольна працягваецца ў цёмны кут да ручкі старасьвецкае сыстэмы званка.

У паўзмрочнай манаскай кельлі трыпечча над дзьвярыма язычок званка.

Дужы дзяціна ў манаскім падрасьніку кладзе на грубы стол кавалачкі паперы і вялікую лупу. Адкасвае рукавы падрасьніка на мускулістыя валасатыя рукі. Не сьпяшаючыся зьбірае кавалачкі паперы, лупу і хавае ў добра дароблены патайнічок ў сьцяне.

Памочнік іспраўніка вымае з кішэні і ставіць перад архімандрытам мініатурную шкатулку.

Архімандрыт прыўстае над сталом. На тлустасьцю залітым твары яго прасьвечвае прыемная лагоднасьць.

— *Бог благаславіць вас, сын мой, за вашы турботы аб доме яго.*

Складзенымі для благаславеньня перстамі архімандрыт памахаў над склоненаю галавою памочніка.

Пад дзьвярыма на калідоры прыгнуўся дужы дзяціна—манах. Вялікая дзірка для ключа ў дзьвярным замку мацае кельлю архімандрыта і спыняецца на сцэне благаславеньня.

Хітра прыжмуранае вока дужага дзяціны.

Архімандрытава рука лягла на мініатурную шкатулку.

Манах лёгка адскочыў на бок.

Ня гледзячы на манаха, танцоўнай хадой сваёй ирайшоў да выйсьця памочнік іспраўніка.

Зноў скручыўся пад дзьвярыма манах.

Дзірка ў замку адкрывае стол і за сталом архімандрыта.

Мініатурная шкатулка на стале адчынена. Айцец архімандрыт перасыпае на руцэ бліскучыя кружочкі залатых манэт. Агнём яўнага срэбралюбія блішчаць вочы вялікага бяссрэбраніка.

Дужы дзяціна ў манаскім падрасьніку выпрастаўся і пастукаў у дзьверы.

*Далікатных і сакрэтных спраў манастырскіх майстраў, усяму гораду вядомы пад клічкай „Вясёлага манаха“.*

Быццам вылеплены з фізычнае сілы і грахоўнае хітрасьці, Вясёлы манах сьмірэнца скрыжаваў свае валасатыя рукі на магутных грудзях перад архімандрытам.

Шыльда:

| Ренсковой погребъ Пейсаха Миленькаго. |
| --- |

Да вушака мякка прытуліўся п'яны Юзік. У стане нявыказна дабрыні ён некаму выабражаемаму нешта гаворыць і ўсьміхаецца п'янай лагоднай усьмешкай на свае жарты.

На фоне дзьвярэй зьяўляецца нізкаватая, падобная на варвольную бочку, грузная фігура.

П'яны Юзік лыпае вачыма і ўсьміхаецца прышоўшаму.

У адказ на ўсьмешку мядзьведжая лапа прышэльца ўбірае ў пальцы каўнер п'янага.

Далёка на вуліцу ляціць і падае ніц п'яны Юзік.

Грузны дзяціна выцірае аб зашмальцаваныя бліскучыя штаны руку і ўвальваецца ў шынок.

*Глава гарадзкіх хуліганаў і разбойцаў Ёўга—сальнік.*

Усе столікі ў шынку заняты сёньня.

Сальнік Ёўга ў позе барца аглядвае спадыбла шынок.

За стойкаю сагнуўся гнуткаю лазінаю шынкар.

Трасуцца пэйсы ў старога Пэйсаха: дай бог нікому гэтак ня ведаць Ёўгу—сальніка як яму.

Цяжэразны кулак з сілай апускаецца на стойку.

Ходарам захадзіла стойка. Пасыпаліся чаркі, пляшкі.

— *Кварту гарэлкі!*
Нізка кланяецца Еўгу стары шынкар.
Пры вакне сядзяць за сталом двое сялян.
З прыжмураным вокам падыходзіць да іх Еўга.
Чаркі і бутэлькі раптам ляцяць з стала. Адзін за адным падаюць далоў абое сялян.
З сьціснутымі кулакамі з-за суседняга стала ўскаквае Яўхім—рабочы з сьлясарні Зуся. Але на плячо кладзецца яму сяброўская рука другога. Яўхім неахвотна садзіцца на сваё месца.
Выкінутыя з-за стала сяляне рэтыруюцца да дзьвярэй. Павоўчаму злосна глядзяць у іх вочы, калі яны аглядваюцца перш чым выйсьці на двор.
Па меры таго як...
Стары Пэйсах на пальчыках падносіць сальніку гарэлку і закуску...
Еўга закурвае папяросу і чакальна ўзіраецца ў вакно...
Шынок супакойваецца.
У адчыненых дзьвярах зьяўляецца пераапрануты ў вольную вопратку Вясёлы манах.
Сальнік кідае недакурак і сакавіта сплёўвае на суседні столік.
Вясёлы манах падыходзіць да Еўгі, садзіцца за яго столік насупроць.
Сальнік Еўга налівае чаркі.
Весела перакульвае чарку Вясёлы манах і схіляецца над сталіком.
Яўхімаў сябра шумна пачынае выліваць свае пачуцьці таварышу.
Яўхім падае знак маўчаць.
Вясёлы манах кідае на стол перад Еўгам некалькі залатых манэт.
Хадою п'янага чалавека, у косікі, паўз стол сальніка праходзіць Яўхім.
Вясёлы манах гаворыць сальніку.
— *На Узьвіжаньне рэвалюцыянэры і жыды зьбіраюцца разагнаць крэсны ход. Прывядзі сваіх хлопцаў.*
Чапляючыся п'яна за сталы, Яўхім выходзіць на двор.
Усё ап'яненьне раптам прападае на дварэ ў Яўхіма—проста роўнаю хадою ён ідзе па вуліцы.
На ўскраіне гораду старэнькая напалову разбураная хатка. Яўхім умоўна стукае тры разы ў дзьверы.
Нябачнаю рукою адчыняюцца, упушчаюць Яўхіма і зачыняюцца за ім—дзьверы.
Скупое сьвятло газьніцы цьмяныя хварбы змроку разьлівае на кутох сутарэньня. За сталом пры рэале з наборным касамі: Майзель, Арон, Ясь. Пад мерную гутарку Яся шпарка піша Арон. Сходзяцца і разыходзяцца перад дзьвярыма цені. У цьмяных кутох сутарэньня калышацца змрок.
Майзель адхінаецца ад газьніцы. Дрыготкае сьвятло насілу разганяе ліпучы змрок. У парозе Яўхім.
Арон пакідае пісаць.
Зноў цені сыходзяцца па кутох сутарэньня, зноў цемра ліпучая пагойдваецца як жывая.
З трывожным выглядам Яўхім расказвае Арону аб здарэньні ў Пэйсаха.
— *Вясёлы манах падкупіў сёньня хуліганаў і разбойцаў Еўгі сальніка для пагрому.*
Нэрвова паторгваецца адна шчака ў Майзеля.
Арон бярэ ліст паперы, размашліва піша.

> „Дарагія таварышы Ігнась і Дуб!
> Паліцыя з духоўніцтвам падрыхтоўваюць на Узьвіжаньне пагром. Вы разумееце, што гэта значыць. Мы тут разгортваем работу па абвяшчэньні палітычнае забастоўкі. Неабходна шырокая дэманстрацыя, прысутнасьць дружыны—даць бой пагромшчыкам і паліцыі.
> Больш асьцярожнасьці: сёньня яшчэ пасланы паліцэйскія сілы ў Слаўнае—Шамкі.
> З таварыскім прывітаньнем Арон, Майзель".

Арон дае запіску Майзелю. Той перачытвае і аддае Ясю.
Доўгія вераўчаныя аборы мільгацяць пры сьвятле газьніцы. Ясь разуваецца, раскручвае абверганыя да калень белыя анучы.
На стале стос лістовак. Майзель убірае ў руку добрую ладку і падае Ясю.
Абкручвае кругом нагі лістоўкі і закрывае іх анучай Ясь.
Скачуць па столі і сьценах сутарэньня мяккія цені. Пагойдваецца ліпучы змок.

*Зацямненьне.*

Першае праменьне сонца. Прачынаюцца гарадзкія вуліцы. Па адным, па два, па тры сьпяшаюцца на прадпрыемствы рабочыя. Адкідаюцца ў дамох вакеніцы, у вокны выглядаюць заспаныя людзі.

Паўз рынчаны пляц павольна ідзе Ігнась.
У адкрытай паласястай будцы дрэмле гарадавы.
На пажарнай вежы звон пачынае адбіваць гадзіны.
Гарадавы прахапляецца, зрывае спрасонку шапку і размашыста хрысьціцца.
На пажарнай вежы дзяжурны пажарнік б'е ў звон. Сем гадзін.
Гарадавы злосна плюецца.
Ігнась рагоча.
Гарадавы пераносіць сваю злосьць за памылку на Ігнася. Тупаціць нагою. Пырскаціць сьлінаю. Хапаецца за сьвісьцёлік.
Спалоханыя вераб'і кучаю ўзьлятаюць і рассыпаюцца над будкай.
На рынчаны пляц зьяжджаюцца хурманкі.
Ігнась адмахваецца ад гарадавога як ад надакучлівай мухі, яго цікавяць сялянскія хурманкі. Праходзячы паўз іх, Ігнась абменьваецца з барадатым дзядзькам ледзь прыкметным знакам і праходзіць далей.
Грамадны раскошны ложак увесь пакрыты беласьнежнай пенай пасьцельнае бялізны. На белым фоне відна толькі адна галава ісправьніка Буракова. Цяплынёю праменьняў пырскаціць у вакно сонца.
Ісправьнік пацягваецца, бярэ з начнога століка беленькі званочак—звоніць.
Гарадавы, што выконвае пры ісправьніку абавязкі і веставога і лёкая, прыносіць вычышчаны мундзір, штаны і боты і пасабляе яго высокаблагародзьдзю адзецца.
На зьваньніцы сабору разгойдваюцца званы. Вялізарныя языкі цяжка б'юцца ў берагі званоў—божы дом заклікае веруючых на малітву.
Адзеты ісправьнік хрысьціцца далікатна і адначасова левай рукой бярэ з скрынкі на начным століку тонкую папяросу. Прыкурвае ад запаленае гарадавым запалкі і з асалодай зацягваецца.
З паліцэйскага ўпраўленьня выходзіць танцоўны памочнік ісправьніка. У руцэ ў яго нераскрытая тэлеграма.
Ісправьнік выходзіць у сталовую і сустракаецца з сваім памочнікам:
Элегантным гэстам памочнік падае яму тэлеграму.
Радасныя стрэлачкі бягуць ад воч ісправьніка на шчокі. Ён хапае за талію памочніка і кружыць яго ў бравурным танцы.
Тэлеграма.

> „Высланъ баталъонъ пѣхоты. Встрѣчайте. Командующій Виленскимъ Военнымъ Округомъ".

Сьлясарня Зуся. На сьцяне майстэрні праклямацыя.

> „Товарищи рабочіе!
> Черное духовенство вмѣстѣ съ полиціей готовятъ намъ сегодня погромъ.
> Товарищи рабочіе! Всѣ какъ одинъ на улицу. Въ тѣсномъ единеніи и сплоченности рабочихъ рядовъ наша сила.
> Долой царскихъ мракобѣсовъ. Долой монархическій деспотизмъ, порождающій паразитовъ и угнетателей!
> Да здравствуетъ рэволюція! Да здравствует власть народа!
> Комитетъ организаціи Россійской Соціал-демократической Рабочей Партіи".

Праходзяць рабочыя. Праклямацыя на сьцяне прыцягвае іхную ўвагу. Азіраючыся па баках, прачытваюць рабочыя праклямацыю, і праходзяць далей.
На дзьвярах майстэрні замок.



**Выдача кніг чырвонаармейцам у бібліятэцы N-скага стр. палка**

ЦАНА 30 кап.

# ПАДПІШЫСЯ НА 1933 г.

на адзіны ў БССР ілюстраваны двухтыднёвы часопіс



# ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ

335

**24 НУМАРЫ НА ГОД**

ПАД РЭДАКЦЫЯЙ МІКОЛЫ ХВЕДАРОВІЧА

**ПАДПІСНАЯ ЦАНА**

| | |
|---|---|
| На год | 7 р. 20 к. |
| На 6 м-цаў | 3 р. 60 к. |
| На 3 м-цы | 1 р. 80 к. |

ЦАНА АСОБНАГА НУМАРУ **30 к.**

**РАЗЬДЗЕЛЫ ЧАСОПІСУ**

## МАСТАЦКІ:

Вершы, апавяданьні, навэлі савецкіх паэтаў і пісьменьнікаў Беларусі.

## КРЫТЫКА:

Артыкулы пра палітыку партыі ў мастацкай літаратуры, пра лепшыя творы савецкае літаратуры, пра тэатры, кіно, выяўленчае мастацтва БССР і інш.

## НАРЫСЫ:

З фронту сацыялістычнай індустрыі, пра сацыялістычную перабудову вёскі, пра нацкультбудаўніцтва, партрэты лепшых ударнікаў прадпрыемстваў, калгасаў, саўгасаў і інш.

## ГУМАР і САТЫРА:

Палітычныя фэльетоны, гумарэскі на літаратурныя тэмы, пароды, эпіграмы і інш.

У часопісу ўдзельнічаюць лепшыя сілы савецкае літаратуры Беларусі. Часопіс багата ілюстраваны малюнкамі і фото.

Часопіс „ЧЫРВОНАЯ БЕЛАРУСЬ“ прадаецца ўва ўсіх кнігарнях Дзяржаўнага Выдавецтва Беларусі, кіёсках Саюздруку, чыгуначных і паштовых кіёсках, у газэтаносцаў, ува ўсіх гарадох і мястэчках БССР.

ПАДПІСКА ПРЫМАЕЦЦА ўсімі агэнцтвамі сувязі і лістаносцамі, кнігарнямі ДВБ, аддзелам падпіскі кнігацэнтру ОГІЗ'у РСФСР, усімі яго філіаламі і ўпаўнаважанымі.

Адрас рэдакцыі: г. МЕНСК, САВЕЦКАЯ 59. Тэлефон 22785.